

# Наша слова

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года

№ 41 (1400) 10 КАСТРЫЧНІКА 2018 г.


## Дарагія сябры “Нашага слова”!

У кастрычніку нам удалося захаваць і нават палепшыць сітуацыю за выключэннем Гомельскай вобласці. Сам Гомель трымаецца, падрасла падпіска ў Буда-Кашалёве, але нешта здарылася ў Жыткавічах. На жаль нам не хапіла 14 асобнікаў, каб ізноў пераадолець лічбу 800. І хоць некаторыя раёны далі значнае павелічэнне падпіскі, гэтага аказалася мала.

| | Верасень | Кастрычнік |
|---|---|---|
| **Берасцейская вобласць:** | | |
| Баранавічы р.в. | 14 | 15 |
| Бяроза р.в. | 8 | 7 |
| Белаазёрск р.в. | - | - |
| Бярэсце гор. | 6 | 7 |
| Ганцавічы р.в. | - | - |
| Драгічын р.в. | - | - |
| Жабінка р.в. | - | - |
| Іванава р.в | 1 | 1 |
| Івацэвічы р. в. | 3 | 4 |
| Камянец р.в. | 1 | 1 |
| Кобрын гор. | 2 | 2 |
| Лунінец гор. | 2 | 2 |
| Ляхавічы р.в. | 1 | 1 |
| Маларыта р.в. | 1 | 1 |
| Пінск гор. | 7 | 7 |
| Пружаны р.в. | 5 | 4 |
| Столін р.в. | - | - |
| **Усяго:** | **51** | **52** |
| **Віцебская вобласць:** | | |
| Бешанковічы р.в. | - | - |
| Браслаў р.в. | 1 | 1 |
| Віцебск гор. | 17 | 18 |
| Віцебск РВПС | 1 | 1 |
| Верхнедзвінск р.в. | 4 | 4 |
| Глыбокае р.в. | 7 | 7 |
| Гарадок р.в. | - | - |
| Докшыцы р.в. | 3 | 2 |
| Дуброўна р.в. | 1 | - |
| Лёзна р.в. | 1 | 1 |
| Лепель р. в. | 1 | 1 |
| Міёры р.в. | 1 | 1 |
| Наваполацк гор. | 17 | 17 |
| Орша гор. | 5 | 5 |
| Полацк гор. | 3 | 3 |
| Паставы р.в. | 6 | 6 |
| Расоны р.в. | 1 | 1 |
| Сянно р.в. | 1 | 1 |
| Талочын р.в. | 1 | 1 |
| Ушачы р.в. | 2 | 2 |
| Чашнікі р.в. | 1 | 1 |
| Шаркоўшчына р.в. | 6 | 6 |
| Шуміліна р.в. | - | - |
| **Усяго:** | **80** | **79** |
| **Менская вобласць:** | | |
| Беразіно р.в. | 3 | 4 |
| Барысаў гор. | 4 | 4 |
| Вілейка гор. | 2 | 2 |
| Валожын гор. | 6 | 23 |
| Дзяржынск р.в. | 7 | 6 |
| Клецк р.в. | 4 | 4 |
| Крупкі р.в. | 3 | 2 |
| Капыль р.в. | 22 | 20 |
| Лагойск | 5 | 4 |
| Любань р.в. | 1 | 1 |
| Менск гор. | 189 | 192 |
| Менск РВПС | 11 | 11 |
| Маладзечна гор. | 9 | 9 |
| Мядзель р.в. | 2 | 1 |
| Пухавічы РВПС | 4 | 4 |
| Нясвіж р.в. | 30 | 33 |
| Смалявічы р.в. | 2 | 2 |
| Слуцк гор. | 5 | 5 |
| Салігорск гор. | 5 | 4 |
| Ст. Дарогі р.в. | - | - |
| Стоўбцы р.в. | 4 | 4 |
| Узда р.в. | 1 | 1 |
| Чэрвень р.в. | 2 | 1 |
| **Усяго:** | **321** | **337** |
| **Гомельская вобласць:** | | |
| Буда-Кашалёва | 2 | 3 |
| Брагін р.в. | 1 | 1 |
| Ветка р.в. | - | - |
| Гомель гор. | 17 | 17 |
| Добруш р.в. | 2 | 2 |
| Ельск р.в. | 1 | 1 |
| Жыткавічы р.в. | 13 | 6 |
| Жлобін гор. | - | - |
| Калінкавічы гор. | 1 | 1 |
| Карма р.в. | 2 | 2 |
| Лельчыцы р.в. | - | - |
| Лоеў р.в. | - | - |
| Мазыр гор. | 2 | 2 |
| Акцябарскі р.в. | 1 | 1 |
| Нароўля р.в. | 1 | 1 |
| Петрыкаў р.в. | 1 | 1 |
| Рэчыца гор. | 1 | 1 |
| Рагачоў гор. | 1 | 1 |
| Светлагорск гор. | 1 | 1 |
| Хойнікі р.в. | - | - |
| Чачэрск р.в. | - | - |
| **Усяго:** | **47** | **41** |
| **Гарадзенская вобласць:** | | |
| Бераставіца | 1 | 1 |
| Ваўкавыск гор. | 4 | 4 |
| Воранава р.в. | 18 | 18 |
| Гародня гор. | 36 | 36 |
| Гародня РВПС | 14 | 14 |
| Дзятлава р.в. | 15 | 18 |
| Зэльва р.в. | 1 | 1 |
| Іўе р.в. | 3 | 2 |
| Карэлічы р.в. | 16 | 16 |
| Масты р.в. | 2 | 2 |
| Наваградак гор. | 21 | 21 |
| Астравец р.в. | 2 | 2 |
| Ашмяны р.в. | 3 | 4 |
| Смаргонь гор. | 6 | 6 |
| Слонім гор. | 31 | 29 |
| Свіслач р.в. | 3 | 3 |
| Шчучын р.в. | 3 | 3 |
| Ліда | 44 | 51 |
| **Усяго:** | **223** | **231** |
| **Магілёўская вобласць:** | | |
| Бабруйск гор. | 1 | 1 |
| Бялынічы р.в. | - | - |
| Быхаў р.в. | 1 | 1 |
| Глуск р.в. | 2 | 1 |
| Горкі гор. | 2 | 2 |
| Дрыбін р.в. | - | - |
| Кіраўск р.в. | - | - |
| Клічаў р.в. | 2 | 2 |
| Клімавічы р.в. | - | - |
| Касцюковічы р.в. | - | - |
| Краснаполле р.в. | - | - |
| Крычаў р.в. | - | - |
| Круглае р.в. | 1 | 1 |
| Мсціслаў р.в. | 1 | 1 |
| Магілёў гор. | 17 | 20 |
| Асіповічы гор. | 10 | 11 |
| Слаўгарад р.в. | 1 | 1 |
| Хоцімск р.в. | - | - |
| Чэрыкаў р.в. | 3 | 3 |
| Чавусы р.в. | - | - |
| Шклоў р.в. | 1 | 2 |
| **Усяго** | **42** | **46** |
| **Усяго на краіне:** | **764** | **786** |

ISSN 2073-7033

9 772073 703003

# “Наша слова” № 1400

## Наша слова - штодзень
## *nslowa.by*
## *E-mail: info@nslowa.by*

З пачатку кастрычніка ў штатным рэжыме працуе новы (цяпер асноўны) сайт газеты “Наша слова” - “Наша слова - штодзень”*(nslowa.by)*. Такім чынам электронная версія газеты “Наша слова” - гэта штодзённае выданне з выхаднымі ў суботу і нядзелю.

Стары сайт”Нашага слова” *naszaslowa.by* працягвае працу. Ён будзе выконваць функцыі электроннага архіва газеты “Наша слова” і іншых выданняў, а таксама асвятляць дзейнасць ТБМ на Лідчыне.

Цяпер можна дасылаць інфармацыю не толькі для друку ў газеце “Наша слова” на паперы, але і асобна для размяшчэння толькі на сайце.

Электронная пошта сайта: *info@nslowa.by.*

Сайт гатовы да супрацоўніцтва з групамі ТБМ у сацыяльных сетках. Ужо арганізавана такое супрацоўніцтва з Гарадзенскам групай ТБМ у фэйсбуку.

Сайт зацікаўлены ў размяшчэнні платнай рэкламы. Таму, шаноўныя чытачы, кожны з вас можа стаць “рэкламным агентам для ТБМ”, калі вы зможаце знайсці прадпрыемствы, установы, прыватных асоб, якія захацелі б размясціць сваю рэкламу на нашым сайце.

Аднак, на сёння існаванне сайта газеты магчымае датуль, пакуль існуе сама газета. Многія арганізацыі ТБМ гэта разумеюць і працуюць над павелічэннем падпіскі.

На 7 асобнікаў вырасла за месяц падпіскаў Лідзе, на 3 - у Нясвіжы, Дзятлаве, Менску, Магілёве, на 1 асобнік павялічылася падпіска ў Баранавічах, Берасці, Віцебску, Буда-Кашалёве, Ашмянах, Асіповічах, Шклове. Але ж у нас не толькі ў гэтых гарадах і раёнах баявыя і дзейныя арганізацыі, ёсць і ў іншых, ды на падпіску яны чамусьці не звяртаюць увагі.

Спадзяёмся, што ў бліжэйшы час клопат пра падпіску будзе ўсё-такі пачуты сябрамі ТБМ, якіх у нас больш за сем тысяч.

*Станіслаў Суднік.*

## 230 гадоў з дня нараджэння Івана Насовіча

**Іван Іванавіч НАСОВІЧ** (7 кастрычніка 1788, в. Гразівец, цяпер Чавускі раён - 6 жніўня 1877) - беларускі мовазнавец-лексікограф, фалькларыст і этнограф.

Скончыў Магілёўскую гімназію і духоўную семінарыю (1812). Працаваў выкладчыкам, інспектарам Аршанскага, выкладчыкам, рэктарам Мсціслаўскага духоўных вучылішчаў (1813-1822), загадчыкам, наглядчыкам, выкладчыкам Дынабургскай гімназіі, Маладзечанскага і Свянцянскага дваранскіх вучылішчаў (1822-1843). У 1843 выйшаў у адстаўку, пераехаў у Мсціслаў і заняўся навуковай працай.

Шмат падарожнічаў па Паўночна-Заходнім краі. Супрацоўнічаў з Аддзяленнем рускай мовы і славеснасці Пецярбургскай АН, Археаграфічнай камісіяй, Аддзяленнем этнаграфіі Рускага геаграфічнага таварыства. Па іх прапанове склаў першы гістарычны слоўнік беларускай мовы "Алфавітны паказальнік старажытных беларускіх слоў, выбраных з Актаў, што адносяцца да гісторыі Заходняй Расіі" (Увараўская прэмія, 1865, рукапіс захоўваецца ў Бібліятэцы РАН у Санкт-Пецярбургу), дзе растлумачаны каля 13 тыс. слоў. Асноўная навуковая праца І. І. Насовіча тлумачальна-перакладны "Слоўнік беларускай гаворкі" (1870, Дзямідаўская прэмія, 1865), у які ўвайшло больш за 30 тыс. слоў, запісаных аўтарам у Магілёўскай, Віцебскай, Менскай і Гарадзенскай губернях, а таксама выбраных з вуснай народнай творчасці, старабеларускіх пісьмовых помнікаў; усе значэнні слоў і словазлучэнняў раскрываюцца аўтарскімі тлумачэннямі з дакладнымі рускімі эквівалентамі і цытатамі з дыялектнай, фальклорнай ці агульналітаратурнай мовы, часам даецца этымалогія слоў...



*Вікіпедыя.*

## 130 гадоў з дня нараджэння Язэпа Драздовіча



**Язэп Нарцызавіч ДРАЗДОВІЧ** (13 кастрычніка 1888, засценак Пункі Дзісненскі павет, Віленская губерня, (цяпер Глыбоцкі раён) - 15 верасня 1954, Падсвілле; Псеўданімы: Я. Нарцызаў) - беларускі мастак, скульптар, этнограф, археолаг, педагог, пісьменнік. Адзін з заснавальнікаў беларускага нацыянальнага гістарычнага жывапісу, майстар дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

У два гады застаўся без бацькі, яго і пяцёра братоў выхоўвала маці Юзэфа, неўзабаве сям'я засталася без зямлі і дома. Сям'я мусіла часта мяняць месцы жыхарства, арандуючы чужую зямлю. Язэп Драздовіч пачаў вучобу ў прыватнай настаўніцы, пасля адвучыўся ў Дзісенскай гімназіі, а ў 1906 годзе пераехаў у Вільню, дзе паступіў у мастацкую школу вядомага расійскага жывапісца Івана Трутнева, якую скончыў у 1908 годзе.

Творчае станаўленне Язэпа Драздовіча адбывалася пад вялікім уплывам набіраўшага хаду беларускага нацыянальнага адраджэння.

У 1910 годзе прызваны на службу ў расійскае войска. У 1917 годзе, пасля сямі гадоў службы, Язэп Драздовіч вяртаецца дамоў.

У 1919 годзе, пасля стварэння БССР, Драздовіч пераехаў у Менск. Пасля падпісання ў 1921 годзе Рыжскага дагавора Язэп Драздовіч пакінуў Савецкую Беларусь і вярнуўся на радзіму Дзісеншчыну. У 1924-1926 гадах выкладаў маляванне ў Глыбоцкай польскай школе, актыўна супрацоўнічаў з Таварыствам беларускай школы. Пасля далучэння Заходняй Беларусі да БССР вучыўся на кароткачасовых настаўніцкіх курсах і ў 1940-1941 гадах працаваў настаўнікам малявання і батанікі ў Глыбокім і Лужках.

Вечны вандроўнік памёр на дарозе...

*Вікіпедыя.*

# Ангела Эспіноса:

## "Мова, якой я хачу прысвяціць жыццё"

На чарговыя панядзелкавыя заняткі на курсах "Мова нанова" вядовец Глеб Лабадзенка запрасіў у Менскую кавярню "Грай" іспанскую беларуску **Ангелу Эспіносу Руіз.**

Незвычайная дзяўчына з выразнымі чорнымі вачыма і чуйнасцю да паэзіі нарадзілася ў Малазе ў Іспаніі ў 1993 годзе. Яна скончыла ў 2011 г. школу з гуманітарным профілем (з лацінскай і старагрэцкай мовамі) і музычную школу. Вучылася на славянскай філалогіі ў Гранадскім універсітэце ў 2015 годзе, а зараз з'яўляецца магістранткай на Кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта.

Ангела Эспіноса Руіз - лаўрэат журналісцкай прэміі "Беларусь у фокусе" (2011), фіналістка паэтычнага конкурсу "Экслібрыс" імя Рыгора Барадуліна 2015 года. У тым самым годзе яна апублікавала зборнік вершаў "Раяль ля мора" ў Менску і электронны зборнік "Памяць пра будучыню". Вершы друкаваліся ў часопісах "Маладосць" і "Дзеяслоў", у газеце "Наша Ніва". У 2017 годзе таленавітая паэтка зрабіла пераклад на іспанскую мову вершаў Максіма Багдановіча. Яна была прынятая ў Саюз беларускіх пісьменнікаў.

Некалькі гадоў таму Ангела Эспіноса атрымала стыпендыю ад дэпартамента ЗША і на месяц скіравалася на вучобу па міжнародных і культурных адносінах. Там было шмат выхадцаў з былога СССР, і яна пачула славянскія мовы, сярод якіх гучала і беларуская. З ёй разам апынуліся добрыя сябры з Беларусі, якія пачалі знаёміць яе з беларускай культурай. Потым Ангела перамагла на журналісцкім конкурсе ў Варшаве. Калі яе запрасілі на ўзнагароджанне, яна апынулася ў беларускамоўным асяроддзі пісьменнікаў, журналістаў, культурных дзеячаў. Пачуўшы беларускую мову з вуснаў людзей інтэлігентных і адукаваных, Ангела адразу закахалася ў яе.

- Я вырашыла, што гэта тая мова, якой я хачу прысвяціць сваё жыццё! Вершы я пачала пісаць даволі хутка, таму што мне падабаецца працэс вывучэння новай мовы праз паэзію. Калі я даходжу да пэўнага ўзроўню, праз некалькі месяцаў стараюся пісаць лірычныя творы, таму што менавіта паэзія дае адчуванне мовы, якога цяжка дасягнуць іншымі шляхамі. Больш ці менш паспяхова я пішу на розных мовах. Нядаўна ў Беластоку па просьбе сябра-журналіста я напісала крыху правакацыйны верш…

Наведвальнікі курсаў даволі лёгка здагадаліся, якія вершы Максіма Багдановіча ў перакладзе на беларускую мову прачытала Ангела Эспіноса з новай кнігі. Прагучалі творы "Зорка Венера", "Паміж пяскоў Егіпецкай зямлі", "Пагоня" і іншыя. Прыклад таленавітай паэткі натхніў удзельнікаў курсаў. У другой частцы заняткаў сваю творчасць прадставілі скульптар Ігар Засімовіч і спявак Зміцер Вайцюшкевіч.

*Э. Оліна,*
*фота аўтара.*



*Ангела Эспіноса Руіз і Глеб Лабадзенка*

**Размаўляеш на роднай са мной, размаўляй без мяне!**

*Называлі мяне тут паэткай, легендай, прарокам.*
*Ды прарокам бываць немагчыма на роднай зямлі.*
*Беларускую мову, відаць, цэнім толькі здалёку.*
*І стагоддзе таму вы яе, сапраўды, прадалі.*
*Называлі мяне беларусы ледзь не гераіняй,*
*А на справе я - толькі дзяўчынка, слабая, малая,*
*І мой голас губляецца, як Хрыстос у пустыні.*
*Бо я - птушка марская, хвараю, калі прылятаю.*
*І чакалі не раз ад мяне найчысцейшае мовы,*
*Быццам камень, балюча, бязлітасна б'е,*
*Збудваць мне адной цяжка тое, што знішчана вамі.*
***Размаўляеш на роднай са мной, размаўляй без мяне!***
*Колькі ж хопіць мяне, не магу падарыць абяцання.*
*Колькі вершаў маіх, колькі слоў узляціць угару!*
*Ды сама я лячу назаўсёды на крылах кахання,*
*Я смяротная, усё ж, можа, сёння ці заўтра памру!*
*Не чакайце сябры пазітыўнай чужынскай адзнакі,*
*І не слоў мілагучных старэйшых братоў,*
*Не шукайце вы зорку на небе, прычыны ды знакі,*
*Беларусь будзе жыць, там дзе памяць, дзе дух, дзе любоў!*

***Ангела Эспіноса Руіз.***

# І яшчэ пра трасянку

Добры дзень!

У газеце ад 3 кастрычніка прачытала артыкул "Крыху пра трасянку", які даслаў паважаны Алег Трусаў.

Згодна з яго меркаваннямі, бо назіраю спрэс, і ў Менску, і ў вёсцы, у малых гарадах сапраўдную асіміляцыю рускай мовы нашымі людзьмі.

Я чытала пра гэтую з'яву раней, калі сапраўды зацікавілася філалогіяй, бо сама пачала пісаць вершы.

У 19-м стагоддзі рускі навуковец з Пецярбургу зацікавіўся гаворкамі Палесся. Для імперскай Расіі гэта была ўскраіна, на самой справе, зусім іншая культура.

Дык вось, у сваім нарысе ён піша, што пачуў знаёмую песню, словы як бы тыя самыя, але вымаўленне было зусім іншае.

Менавіта такую з'яву, падцверджанне тых высноў, я назірала летам, калі ехала ў электрычцы ў Стоўбцы. Наўскос ад мяне сядзелі тры чалавекі, знаёмыя між сабой. Дзве жанчыны і мужчына. Адна з жанчын - дзябёлая, рухавая, з добрым гумарам і моцным голасам. Другая - субтыльная, ціхая; размаўляла на рускай мове. (Яна так лічыла.) А мужчына крыху падтрымліваў размову.

Дзве гадзіны я была сведкам цудоўнай асіміляцыі рускай мовы нашымі людзьмі! Дзябёлая жанчына была такой, якая яна ёсць, яна не сачыла, як на яе глядзяць, ці што скажуць. Гутарка яе была свойскай, добразычлівай, з добрым гумарам - вельмі выразная трасянка. І, не пабаюся сказаць, гэта гучала па-нашаму!

Яе суразмоўцы гаварылі як бы на рускай мове. А на самой справе амаль усе карыстаюцца рускай мовай, але пры гэтым іх вымаўленне застаецца свойскім, людзі не мяняюць артыкуляцыйныя рухі. Мала хто ведае, што беларуская мова месціцца на кончыку языка. Наша *дзеканне* і *цеканне* - прыродныя адкрытыя гукі. Яны ўласцівыя нам. Гучанне рускіх слоў сыходзіць у глыбіню рота. Руская мова - глыбокая і касмічная. Але, паважаючы суседзяў, варта берагчы сваё. Мы - іншыя, мы -беларусы. І, спадзяюся, дарасцем да асэнсавання нашага сімвалу - чысціні бел-чырвона-белага колеру. Бо нават назоў наш утрымлівае гэту чысціню.

Дасылаю верш

**Заклік**

Белая, белая, белая,
стань жа, нарэшце,
ты смелаю
і раскажы аб любові,
аб мірнае працы, спакої.
Вернаю памяці продкаў
стань ты, нарэшце, адночы.
Іх разляцелася многа,
кожны знайшоў дзесь дарогу,
долі сваёй не пярэчыў,
звацца ліцвінам, дарэчы
Хтосьці русінам назваўся,
і працаваць пастараўся.
Жыццямі іх кіравала
і зберагла ад навалы
памяць - любоў да Радзімы,
іх адчуванне Адзінства,
Еднасці з краем тым родным,
дзе нарадзіўся свабодным,
дзе да грудзей быў
прытулены
і ўзгадаваны матуляю.
Што ж тут цяпер адбываецца?
Дзе тыя сілы хаваюцца?
Хто павядзе за сабою,
клікне: не трэба ўжо бою!
Хопіць і бою, і болю,
хопіць пакутаў, даволі!
Дайце Любові дарогу.
І не судзіце нас строга.

***Ядвіга Рай.***

# Варшаўскіх дзяцей будуць вучыць па-беларуску

**20** кастрычніка ў Варшаве пачынаюцца заняткі ў Пункце вывучэння беларускай мовы. Ён дзейнічае ўжо другі год запар, а з'явіўся па ініцыятыве бацькоў, якія хочуць навучыць сваіх дзяцей роднай мове. Прычым беларуская родная як для карэнных жыхароў Польшчы, так і для тых, хто пераехаў з Беларусі жыць у Варшаву.

Пункт вывучэння беларускай мовы адкрыўся ў 2017 годзе пры варшаўскай пачатковай школе № 395 імя ротмістра Вітольда Пілецкага, якая знаходзіцца на вул. Сераkоўскага, 9, каля станцыі метро "Двожац Віленьскі". Пункт працягвае працу сёлета.

Янна Стальмашчык:

- Гэта пункт для дзяцей, якія з'яўляюцца грамадзянамі Польшчы і ходзяць у варшаўскія школы або дзіцячыя садкі, адчуваюць сваю прыналежнасць да беларускай меншасці і хочуць вывучаць родную мову. Так трэба разумець гэты Пункт. Гэта не пункт, не школа для дзяцей беларусаў, якія прыехалі ў Польшчу, як гэта разумее частка бацькоў. Дзяцей у нас няшмат. Летась было тры групы. Была малодшая і старэйшая дзетсадаўскія групы і школьная група. Кожная група налічвала ад трох да пяці чалавек. Сёлета трохі зменіцца структура. Прыбудзе некалькі дзяцей. Будзе група дзетсадаўская і дзве школьныя - малодшая і старэйшая. Бо шасцігадовыя дзеці сталі сямігадовымі і перайшлі з дзіцячага сада ў школу. А школьнікі таксама падраслі і будуць вучыць, апрача мовы, яшчэ і гісторыю, і культуру Беларусі.





Жыхарка Варшавы Ганна Чаравацкая невыпадкова прывяла дзвюх дачок у Пункт вывучэння беларускай мовы. Яе сям'я паходзіць з-пад Гайнаўкі на Падляшшы, прабабка са Слоніма, а ў дзеда ў ваенным білеце была ўпісана беларуская нацыянальнасць.

Некаторыя бацькі прыводзяць сваіх дзяцей у пункт вывучэння беларускай мовы і адначасова з'яўляюцца настаўнікамі. Як Ганна Плашчынская, якая выкладае беларускую мову і літаратуру дзеткам ва ўзросце 3-4 гадоў. Яе сыну чатыры гады, і ён таксама вучыцца ў Пункце.

Вядомы ў Варшаве прысяжны перакладчык з беларускай мовы Марыя Луцэвіч-Напалкава прывяла ў Пункт вывучэння мовы дваіх дзяцей, якія ўжо добра валодаюць мовай, бо гавораць на ёй дома.

З'яўленне пункта вывучэння беларускай мовы стала магчымым дзякуючы намаганням жыхаркі Варшавы Караліны Лукашэвіч, выпускніцы кафедры беларусістыкі Варшаўскага ўніверсітэта. Яна працуе ў Міністэрстве нацыянальнай адукацыі Польшчы і расказала, што такія пункты створаны ў сталіцы Польшчы і для некаторых іншых нацыянальных меншасцей: армян, немцаў і ўкраінцаў.

Пункт вывучэння беларускай мовы шукае выкладчыкаў беларускай мовы, якія маюць педагагічную адукацыю. Заробак абяцаюць, праўда, невялікі. Ахвочыя могуць звяртацца непасрэдна да дырэктара школы або да ініцыятыўнай групы Пункта па электроннай пошце: sadok.warszawa@gmail.com.

***Віктар Корбут.***



# Доктар Скот Кэрал сведчыць пра даставернасць Бібліі

Працягваецца захапляльная сесія для ўсёй краіны па знаёмстве з гісторыяй стварэння і распаўсюджвання самай уплывовай кнігі чалавецтва.

На выставе "Беларусь і Біблія" ў музеі кнігі Нацыянальнай бібліятэкі кожны дзень ветліва сустракае групы наведвальнікаў археолаг і гісторык Скот Кэрал з Мічыгана. На выставу прыязджаюць студэнты семінарый з выкладчыкамі, вучні сярэдніх і нядзельных школ, прыбываюць групы з універсітэтаў і розных установаў краіны, якія з цікавасцю слухаюць аповед арганізатараў выставы і экскурсаводаў-валанцёраў.

Доктар Скот будуе свой аповед так, каб госці выставы на матэрыяле старажытных крыніцаў пераканаліся ў даставернасці Бібліі. Эксперт высокага ўзроўню на працягу дзесяцігоддзяў займаецца вывучэннем і ідэнтыфікацыяй рукапісаў. Да яго звяртаюцца прадстаўнікі музеяў і прыватных калекцый з мэтай даціроўкі старажытных скруткаў. Доктар Скот быў дырэктарам Вашынгтонскага музея Бібліі, які валодае 55 000 экспанатаў. Ён праводзіў раскопкі ў Егіпце, Ізраілі.

У час раскопак у Егіпце ён знаходзіў каштоўныя дакументы сярод папірусаў, якія там выкарыстоўвалі, каб зрабіць пасмяротную маску для фараонаў. На папірусах знаходзіліся запісы Святога Пісьма.

Папірус Нэша, прадстаўлены ў экспазіцыі, быў знойдзены ў горадзе Эль-Фаюм і адносіцца да II стагоддзя да н.э. і захоўвае 10 прыказанняў і малітву "Шэма?"/"Шма Ізраэль" ("Слухай, Ізраіль") Папірус паказвае, што пісцы былі зацікаўлены ў захаванні і ў вывучэнні самых важных урыўкаў Бібліі.

Габрэі ў перыяд рассеяння па свеце распаўсюджвалі Святое Пісьмо ў розных краінах, куды яны траплялі. Захаваліся скруткі Торы, перапісаныя ў Кітаі, Індыі, Емене. Доктар Скот дэманструе гэтыя скруткі і распавядае пра іх.

Вядомы археолаг дэманструе наведвальнікам найкаштоўнейшыя знаходкі I, II і III стагоддзяў нашай эры. Сярод экспанатаў ёсць папірус на грэцкай мове, знойдзены ў Егіпце, які датуецца 125-140 г. н. э. і захоўвае ўрыўкі з Евангелля паводле Яна. Гэта сведчыць пра тое, што Евангелле распаўсюджвалася па Блізкім Усходзе і спіс яго патрапіў у Егіпет. Іншы папірус, датаваны паміж 125-175 годам ўтрымлівае ўрыўкі паслання апостала Паўла да карынцянаў.

Паступова археолаг пераходзіць да другой часткі экспазіцыі - друкаваных Біблій з усяго свету, якія пачалі з'яўляцца пасля вынаходжання друкарскага станка Іаанам Гутэнбергам у 1448-1455 гадах. У выніку гэтага Біблія стала даступнай простым людзям, усё больш людзей змагло навучыцца чытаць, павысіць сваю адукаванасць і заняць больш высокае месца ў грамадстве.




Добразычлівы і ўсмешлівы доктар Скот не стамляючыся дэманструе Біблію на нацыянальных мовах: нямецкай, англійскай, паказвае Паліглоты - шматмоўныя Бібліі на 9 мовах вялікага памеру. Пра Біблію Францішка Скарыны распавядаюць гісторыкі і валанцёры.

Доктар Скот і яго жонка Дэніс жывуць у маляўнічым штаце Мічыган у горадзе Гранд Хэйвен, паблізу ад вялікага возера Мічыган. Ландшафт разнастайны ўзгоркамі, пясчанымі дзюнамі. У сям'і Кэралаў чацвёра дзяцей: сыны Бенджамен і Кэмрын, дочкі - прыгажуня Джой і атлетычная Эн.

- У нашым горадзе шмат моцных хрысціянскіх сем'яў, - кажа місіс Дэніс. - Майму мужу часта прыносяць старажытныя дакументы для ідэнтыфікавання, і ён гэтым з цікавасцю займаецца!

На выставе "Беларусь і Біблія" сярод вялікай каманды арганізатараў з экспанатамі знаёміць сям'я Слайфаў: Джон і Энджал з Тэхаса. У іх - тры сыны і тры дачкі. На радзіме яны праводзяць падобныя лекцыі ў музеях, шмат вандруюць па краіне.

Джон Слайф распавёў драматычную гісторыю перакладу Бібліі на англійскую мову. Гэтай працай займаўся Уільям Цындэйл ў 20-х гадах XVI-га стагоддзя. Але ў той час пераклад на нацыянальныя мовы не падтрымліваўся афіцыйнымі коламі, і Уільям Цындэйл быў спалены на вогнішчы як ерэтык. Яго працу па перакладзе Новага Запавету працягнуў Майз Кавердэйл.



У межах дзейнасці міжнароднай выставы "Беларусь і Біблія" у канцы верасня адбылася сустрэча з вядомым амерыканскім пратэстанцкім прапаведнікам, філантропам і прадпрымальнікам Джошам Макдаўэлам, аўтарам шматлікіх кніг. Ён нарадзіўся ў штаце Мічыган у сям'і фермераў у 1939 годзе. Пасля акрыцця "жалезнай заслоны" яго кніга "Не проста цясляр" пра жыццё Ісуса Хрыста была адной з найбольш распаўсюджаных у беларускіх пратэстанцкіх цэрквах. Ён - бацька чатырох дзяцей.

Джош Макдаўэл наведаў з лекцыямі 137 краін свету і прыбыў у Беларусь ужо ў сёмы раз. Падчас лекцыі ён прадэманстраваў рарытэты са сваёй прыватнай калекцыі - скрутак Торы, якому каля 600 гадоў, Таджы - кнігі тэкстаў Бібліі, перапісаныя ў Емене каля 500 гадоў таму.

Энергічны, бадзёры і кантактны містар Джош паціснуў кожнаму наведвальніку лекцыі руку. Яго аповед пераканаў гасцей выставы, што да Святога Пісьма трэба ставіцца беражліва.

- Калі я вучыўся ў каледжы, то быў раз'юшаны на Бога і царкву і вырашыў, што абвергну "хрысціянскія міфы"! - засведчыў Джош Макдаўэл. - Але выйшла якраз наадварот. Праз сяброў у студэнцкім гуртку я стаў хрысціянінам. Далей я паставіў сваёй мэтай пацвердзіць гістарычную даставернасць старадаўніх біблійных скруткаў. Першы раз я звярнуўся з просьбай да Госпада, каб ён дазволіў мне аваладаць артэфактамі, праз якія я б мог давесці ўсім, што Святое Пісьмо праўдзівае і дзейснае.

Зараз мой дом выглядае як сапраўдны музей, у якім захоўваюцца старадаўнія манускрыпты. Самай каштоўнай для мяне з'яўляецца Біблія сям'і Макдаўэлаў, якой некалькі соцен гадоў, -сказаў Джош Макдаўэл.

Прапаведнік і пісьменнік распавёў пра гісторыю габрэйскіх манускрыптаў, якія знайшлі на мяжы Германіі і Польшчы, і якім каля 600 гадоў. Скрутак Торы быў перапісаны ў беднай вёсцы. Да яго ставіліся як да вялікай святыні.

У межах дзейнасці выставы "Беларусь і Біблія" ў Нацыянальнай бібліятэцы з лекцыяй "Біблія і навука" выступіў Нобелеўскі лаўрэат з ЗША Кенэт Брокман, спецыяліст па ядзернай фізіцы, які атрымаў прэмію за "меры па прадухіленні выкарыстання атамнай энергіі ў ваенных мэтах". Гэты высокі моцны чалавек ужо 8 раз прыязджаў на Беларусь з лекцыямі, сустракаўся са студэнтамі і з выкладчыкамі Гомельскага медыцынскага ўніверсітэта, ганаровым доктарам якога ён з'яўляецца. Кенэт Брокман - бацька 3 дзяцей і 8 унукаў.

26 верасня міжнародны круглы стол "Беларусь і Біблія" адбыўся ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. У ім прынялі ўдзел прадстаўнікі "Групы даследвання рукапісаў" ( ЗША), вядомыя даследчыкі кніжнай культуры і літаратуры, спецыялісты ў галіне багаслоўя, спецыялісты з Нацыянальнай Акадэміі навук, выкладчыкі і студэнты розных навучальных установаў краіны, сябры грамадскіх арганізацый, праваслаўны святар і пастар пратэстанцкай царквы.

З паведамленнямі выступілі кандыдат культуралогіі Алесь Суша, прафесар Людміла Іванова, старшыня міжканфесіянальнага Біблійнага таварыства Рэспублікі Беларусь Аляксандр Іванавіч Фірысюк, доктар Оксфардскага Цэнтра місіянерскіх даследванняў Брус Андэрсан, доктар сакральнага багаслоўя Ірына Дубянецкая, пастар Антоній Бокун і святар Алег Голубеў.

- Мы вывучаем Біблію, паглыбляем свае веды ў рамках тэалагічных дысцыплін, і стараемся данесці Слова Божае ў паўсядзённым служэнні і ў побыце, - адзначыў пратаіерэй Алег Голубеў.

Дыскусія закранула пытанні ўплыву Бібліі на культуру і філасофскую думку Беларусі, распаўсюджванне Бібліі на тэрыторыі нашай краіны і прысутнасць яе ў сучаснай культурнай прасторы краіны.

Госці кругла стала сардэчна падзякавалі доктару Скоту Кэралу і спадару Аляксандру Сушу за арганізацыю ўнікальнай выставы "Біблія і Беларусь", якая стала яркай падзеяй грамадскага і культурнага жыцця. Выстава стала выдатнай пляцоўкай для правядзення лекцый па гісторыі стварэння і распаўсюду Святога Пісьма і змястоўных інтэлектуальных дыскусій. Выстаўка працягне дзейнасць да 21 кастрычніка.



*Эла Дзвінская,*
*фота аўтара.*

1. Міжнародны круглы стол "Беларусь і Біблія"; 2. Доктар Скот Кэрал, ксёндз Сяргей Бараўнёў і група школьнікаў; 3. Джон і Энджал Слайф.

*Сымон Барыс*

# Слоўнік асабовых імёнаў: крок уперад, а два назад

За апошнія гады надрукавана некалькі слоўнікаў уласных імён. Хоць некаторыя з іх вельмі падобныя, але маюць свае адрозненні. У мінулым годзе выдавецтвам "Народная асвета" выдадзены "Слоўнік асабовых уласных імён" Уладзіслава Завальнюка і Валянціны Раманцэвіч. Выдадзены ён у цвёрдай вокладцы вялікім накладам 1500 штук. На кнізе пазначана, што надрукаваны пад агульнай рэдакцыяй членакарэспандэнта НАН Беларусі А. А. Лукашанца. Рэцэнзенты гэтай кнігі - доктар філалагічных навук Г. М. Мезенка і кандыдат філалагічных навук А. К. Усціновіч.

Шаноўны Аляксандр Лукашанец, доктар філалагічных навук, у прадмове да слоўніка піша: *"Уласныя імёны з'яўляюцца істотнай састаўной часткай слоўнікавага складу любой мовы, вызначаюць яе нацыянальную спецыфіку. Асабовыя ўласныя імёны ўваходзяць у нацыянальны лексікон беларускай мовы. Аднак істотна адрозніваюцца ад агульных найменняў як па сваім складзе і асаблівасцях гістарычнага фарміравання, так і па складзе сваёй функцыянальнай ролі"*. Вельмі слушна сказана. На с. 4 наступная фраза нават вылучана чорным шрыфтам: *"Таму вельмі важна і неабходна ведаць асаблівасці свайго нацыянальнага іменніка і карэктна яго выкарыстоўваць у сучаснай іменаслоўнай практыцы"*. Гэтым сказам А. Лукашанец дае накірунак на нашы нацыянальныя імёны ў гэтым слоўніку. Прасочым, на што зрабілі ўпор складальнікі такога паважанага слоўніка, на які Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь дало заказ і аказала фінансавую падтрымку, што вельмі рэдка бывае.

У прадмове таксама адзначаецца, што ён мае нарматыўны характар і прапануецца для практычнага прымянення. А я хацеў бы вылучыць яго і ў тым, што ён носіць інтэрнацыянальны характар. Тут ёсць усе вядомыя імёны, акрамя японскіх, кітайскіх, карэйскіх ды якуцкіх.

Адразу даю гэтай кнізе станоўчую адзнаку: выданне "Слоўніка асабовых уласных імён" У. Завальнюка, В. Раманцэвіч - важная падзея ў гісторыі культуры Беларусі 2017 года.

Слоўнік складаецца з прадмовы, трох раздзелаў: Беларуска-рускі слоўнік імён, Каляндар імён, Паходжанне і значэнне ўласных асабовых імён. Затым у кнізе надрукаваны "Дадатак", у якім даюцца скланенні ўласных асабовых імён, імён па бацьку і прозвішчаў на беларускай і рускай мовах. На мой погляд, гэты "Дадатак" - самае каштоўнае ў гэтай кнізе і больш неабходнае ў школе і па-за школай для выкарыстання.

Кніга напісана на грунтоўнай аснове, улічаны папярэднія беларускія і рускія навуковыя слоўнікі імён. Для складання слоўніка выкарыстаны біблейскія, кананічныя рымска-каталіцкія, кананічныя грэка-праваслаўныя, стараславянскія і савецка-рэвалюцыйныя імёны. Што датычыцца ўніяцкіх беларускіх імён, дык пра іх не ўзгадваецца, а імёны Васіль, Генадзь, Анатоль, Пракоп, Якуб, Язэп, Яўген названы народнымі, "якія таксама маюць статус пашпартных (дакументальных)" (с.5). Аднак шмат беларускіх імён народных ёсць і сярод нарматыўных і сярод размоўных. І на мой погляд, большасць з іх аднесены да размоўных. І зроблена гэта ў канькютурных палітычных мэтах, бо нідзе нават не згадваецца, што існуюць адмысловыя беларускія імёны. І тут лагічна паставіць пытанне складальнікам слоўніка: Чаму немцы, палякі, чэхі, літоўцы, латышы, фіны маюць нацыянальныя імёны, а беларусы іх не маюць? Можа іх і зусім няма? Аказваецца, што яны ёсць, але ў гэтай кнізе яны аніяк не вылучаны. А таму і ўся літаратура пра беларускія імёны тут не выкарыстана і не даецца ў спісе літаратуры і зроблена гэта наўмысна. І хай не думаюць складальнікі слоўніка, што я за гэта маю на іх крыўду. Зусім не. Я хачу Вас зразумець. У іншы час Вы напісалі б інакш. Нават не сумняваюся. І тады не трапілі ў слоўнік надуманыя рэвалюцыйныя імёны 1920-1930 -х гадоў. А іх тут вельмі шмат. Назаву іх. Мужчынскія імёны: *Акцябрын, Вілен, Кім, Марклен, Марлен, Мартэн, Мэлк, Рэўдзіт, Рэўпуць, Рэўмір, Трактар, Уладзілен, Уладлен*. Жаночыя рэвалюцыйныя імёны: *Акцябрына, Барыкада, Віляніна, Вілена, Воля, Змычка, Змена, Свабода, Сталіна, Наябрына, Леніяна, Іскра, Інтэрна, Уладлена, Уладзілена, Нінель, Вілора, Красарма, Рэўміра, Марсельеза, Трактарына, Юнарма, Юнаўлада*. Чаму яны тут даюцца на роўных правах з біблейскімі? Для чаго? Адказ прыходзіць сам сабой: для выкарыстання, бо мы яшчэ не адышлі ад Кастрычніцкай рэвалюцыі. Ні ў Польшчы, ні ў Літве і нават на Украіне так бы іх не надрукавалі, а ў нас, калі ласка. Зразумела, пра іх трэба было сказаць, як гэта зрабіў у прадмове А. Лукашанец, але не даваць як нарматыўныя па ўсёй кнізе. У той жа час папулярныя беларускія імёны: *Міхась, Кастусь, Вінцэсь* і іншыя пазначаны, як размоўныя. А таму, каб запісаць гэтыя імёны ў дакументы, трэба пазмагацца з чыноўнікамі ЗАГСа або пашпартнага стала, альбо даць хабар. А вось як імя *Сталіна* альбо імя *Трактар* запішуць без праблем. У Слоўніку яны даюцца як нарматыўныя. І такім чынам невядома, дзе мы жывём: у БССР ці ў Рэспубліцы Беларусь?

Станоўчым трэба прызнаць, што ў слоўніку вельмі шмат стараславянскіх імёнаў, якія раней ніколі не прызнаваліся царквой: *Баян, Браніслаў, Святаслаў, Мечыслаў, Часлаў, Яраслаў, Святлана, Вайслава, Надзея, Воля, Любаміра, Любава, Міраслава* і іншыя. Даюцца тут імёны багоў Старажытнай Грэцыі і Старажытнага Рыма, але апускаюцца імёны славянскіх багоў, апраца *Лады*. Сапраўды, некаторыя з іх не зусім стасуюцца сюды.

А цяпер пра беларускія імёны. Падабаюцца яны У. Завальнюку і В. Раманцэвіч ці не, але яны існуюць, хоць яны робяць выгляд, што іх не заўважаюць. Зразумела, некаторыя з іх нагадваюць рускія альбо польскія імёны, але шмат такіх, якія маюць адмысловыя беларускія формы. У слоўнік трапілі беларускія жаночыя імёны, якія маюць суфікс **-ін** (*Караліна, Паўліна, Міхаліна, Пілпіна*). Беларускія некаторыя імёны заканчваюцца на суфікс **-сь**. Тут заўважаецца ўплыў літоўскай мовы на беларускую. Літоўскія імёны мужчын заканчваюцца на суфікс **-ас**: напрыклад, *Віктарас, Вітаўтас, Леанардас, Мікалас*. У Беларусі шмат славутых асоб мелі афіцыйнае імя *Міхась*, якое стала друкавалася ў навуковай і мастацкай літаратуры. Назаву вядомых асоб з гэтым імем: *Лынькоў, Клімковіч, Машара, Зарэцкі, Раманюк, Тычына, Ткачоў, Скобла, Чарняўскі, Шавыркін*. Усім вядома імя *Кастусь*, якое маюць паўстанец *Каліноўскі* і паэт *Цвірка*, але яно таксама аднесена да размоўных. Жаночыя імёны, якія заканчваюцца на **-ся** (*Вінцэся, Кастуся, Стася*) таксама аднесены да размоўных Яшчэ горшае стаўленне складальнікаў паважанага слоўніка да імён *Змітра* і *Жыгімонт*. Іх проста нават няма ў кнізе, хоць у слоўніку даюцца зусім-зусім рэдкія імёны, якія аніякага дачынення не маюць да беларускага народа: *Фаба, Цераменфа, Іаад, Зарвіл* і іншыя. Замест беларускага *Змітра* даецца праваслаўнае рускае *Дзмітрый* і размоўнае *Зміцер*. Імя *Жыгімонт* адсутнічае зусім, хоць у беларускіх энцыклапедыях вялікія князі літоўскія названы гэтым імем. Замест гэтага імені даецца польскае *Сігізмунд*, якое запісана так і ў рускай мове. А вось імя *Сымон* прызналі, бо яно ёсць і ў палякаў-католікаў, а імёнаў *Міхась, Змітра, Зыдор, Жыгімонт, Лёля* і *Самось* няма, бо яны беларускія народныя. Дарэчы, у папярэдніх слоўніках імя *Сымон* прызнавалася толькі як размоўнае. Атрымоўваецца, складальнікі слоўніка зрабілі адзін крок уперад, а два назад, каб апынуцца ў савецкім часе. Беларускія імёны іх зусім не цікавяць, а таму яны аніяк не вылучаюцца. Нават А. Лукашанец у прадмове да слоўніка не называе іх беларускімі, а народнымі (гл. с. 5, вось такая падстрахоўка ад усяго нацыянальнага).

# СЫРАКОМЛЯ Ў НЯСВІЖЫ

*О Багародзіца, Ты праз сталецці*
*У міласэрнасці не змружыш вочы*
*На варце ў браме, каб Твае ўсе дзеці*
*Тут чуліся ў бяспецы ўдзень і ўночы.*
*Пільнуй святыні, дзе Твой сын салодкі*
*Бярэ ад нас ахвяры неадменна,*
*Пільнуй дамы і вежаў шыхт каменны,*
*Руіны - даўні гарадок Сіроткі.*

**Уладзіслаў Сыракомля.**
**"Да Багародзіцы".**

Павандраваць па Беларусі яму давялося шмат, вымушалі на тое сямейныя абставіны: паэт і краязнавец Уладзіслаў Сыракомля (Людвік Кандратовіч) паходзіў з сям'і арандатара. З'явіўся на свет, калі сям'я жыла і гаспадарыла ў арандаваным фальварку Смольгаў на Бабруйшчыне (цяпер Любанскі раён). Неўзабаве бацькі пераязджаюць у Яськавічы тагачаснага Слуцкага павета (цяпер Салігорскі раён). Надзеі набыць гэты фальварак ва ўласнасць не спраўдзіліся - перабраліся ў Кудзінавічы (Капыльскі раён), затым Мархачоўшчыну, пасля Залучча на Стаўпеччыне. Апошнія гады жыў у фальварку Барэйкаўшчына па дарозе з Вільні да Ашмян.







З Нясвіжам лёс звёў яго двойчы: першы раз у 1833-34 гадах, калі хлопчыкам 11-12 гадкоў вучыўся ў павятовай школе пры дамініканскім кляштары, другі - у 1840-44 гадах, калі працаваў у радзівілаўскай канцылярыі. Горад і замак тых часоў перажывалі перыяд заняпаду, уяўлялі сабой сумнае відовішча і "мала чым маглі пацешыць". Ды цікаўны падлетак, пасля малады чалавек знаходзіў тут сабе пацеху ў старанный вучобе (адзнакі меў па большасці прадметаў "надзвычайныя"), вывучэнні класічнай творчасці, першых літаратурных і краязнаўчых практыкаваннях. Завёў сяброўства з былымі студэнтамі Віленскага ўніверсітэта, удзельнічаў у літаратурных вечарынах.

15 красавіка 1844 года адбылася падзея, што вызначыла надалей сямейны лёс паэта: у нясвіжскім касцёле ён вянчаўся з Паўлінай Мітрашэўскай - пляменніцай кіраўніка радзівілаўскай канцылярыі. Маладыя з'едуць у Залучча. Але праз усё жыццё пранясе Уладзіслаў Сыракомля ўдзячнасць Нясвіжу, любоў да яго. "Пачынае мацней стукаць сэрца: гэта мы ўязджаем у дарагое даўнімі ўспамінамі месца", - так напіша ён пра наш горад. І сёння з яго вялікай краязнаўчай працы "Вандроўкі па маіх былых ваколіцах", іншых дзённікавых запісаў маем жывое ўяўленне пра тагачасны Нясвіж, выгляд яго ваколіц, адметнасці гарадскога жыцця (напрыклад, традыцыйны Святаміхальскі кірмаш, што праводзіўся восенню і амаль супадаў па часе з днём нараджэння паэта).

Сыракомлю з поўным правам можна назваць пачынальнікам паэтычнага летапісу Нясвіжа. І пачатак гэты быў даволі значны, бо ўяўляў сабой нізку вершаў пад агульнай назвай "Згадкі Нясвіжа". Ды не проста вершаў, а вершаў-санетаў. Апроч цёплага лірычнага пачуцця ў іх шмат гістарычных дэталяў, нясвіжазнаўчых сведчанняў-падказак пра замак, Слуцкую браму, Альбу, труны Радзівілаў. Завяршаў паэтычны цыкл верш-малітва да Багародзіцы берагчы Нясвіж - "даўні гарадок Сіроткі".

29 верасня прадстаўнікі культурнай грамадскасці Нясвіжчыны, у пераважнай большасці сябры мясцовай арганізацыі ТБМ імя Францішка Скарыны і суполкі палякаў, навучэнцы педкаледжа імя Якуба Коласа сабраліся ў Доме польскім, каб ушанаваць 195 гадавіну ад нараджэння Уладзіслава Сыракомлі (яна акурат выпала на апошнюю суботу верасня). Чыталі яго вершы, па-беларуску і па-польску. Разважалі пра вытокі аддανасці нашаму гораду, глыбей спазнавалі жыццёвы лёс "вясковага лірніка", напісалі невялікую дыктоўку з яго "Вандровак…" пад назвай "Тракт да Нясвіжа", выказваліся наконт святкавання 200-годдзя паэта - па-святочнаму радаваліся, што ён быў у нас і ёсць.

***Наталля Плакса,***
***Нясвіж.***





# Алег Трусаў: "Гэта толькі пачатак…"



**В**ыканавец абавязкаў рэктара Нацыянальнага ўніверсітэта імя Ніла Гілевіча Алег Трусаў распавёў, як пачаліся курсы і прайшлі майстар-класы пры ўніверсітэце.

**Алег Трусаў:**

- Паколькі для правядзення курсаў ліцэнзаванне не патрэбна, то ўжо 24 верасня адбыліся першыя заняткі. У межах гэтых курсаў таксама прайшлі майстар-класы, на якія запрашаліся не толькі тыя, хто запісаўся на курсы, але і ўсе ахвочыя. Першы такі майстар-клас праводзіў наш знакаміты гісторык і літаратар Уладзімір Арлоў, затым была сустрэча з Андрэем Дынько. Адным словам, працэс ідзе.

**РР:**

- Першы блін не выйшаў камяком?

**Алег Трусаў:**

- Можна толькі парадавацца таму, што на курсы запісваецца ўсё больш людзей. Напачатку запісалася толькі 7 чалавек, а зараз ужо 15. Паціху людзі прыходзяць, цікавяцца… Мяркую, што гэта толькі пачатак.

**РР:**

- З кім пройдуць наступныя майстар-класы?

**Алег Трусаў:**

- Плануецца сустрэча з журналісткай Святланай Калінкінай, але пакуль гэта яшчэ пад пытаннем. Таксама пройдуць заняткі з музыкантам Андрусём Такіндангам (22 кастрычніка ў 18.00), бардам Эдуардам Акуліным і паэтам Леанідам Дранько-Майсюком (29 кастрычніка ў 18.00). Дарэчы, будуць і выязныя майстар-класы. Нас ужо запрасілі ў Наваполацк, Полацк, Ліду, Стоўбцы і Баранавічы. Там абудуцца сустрэчы кіраўніцтва ўніверсітэта з грамадскасцю.

***Кастусь Заблоцкі, Беларускае Радыё Рацыя.***

## Новыя лекцыі ў Гістарычнай школе

16 (аўторак) і 23 (аўторак) кастрычніка з 17:30 да 19:00 запрашаем на лекцыі і прагляды дакументальных гістарычных стужак з працягам "Гістарычнай школы" начале з Алегам Трусавым, археолагам, гісторыкам беларускай архітэктуры, кандыдатам гістарычных навук, дацэнтам, палітыкам і грамадскім дзеячом, в.а. абавязкаў рэктара "Універсітэта імя Ніла Гілевіча", Ганаровым старшынём ТБМ.

**16 кастрычніка** Алег Трусаў распавядзе пра "Спадчыну Радзівілаў. Нясвіжскі і Мірскі замкі". Будзе паказаны дакументальны фільм па тэме.

**23 кастрычніка** адбудзецца лекцыя на тэму "Гістарычны цэнтр Нясвіжа". Будзе паказаны дакументальны фільм па тэме.

Адрас: офіс ТБМ (вул. Румянцава, 13).

Уваход вольны.

## "Зялён явар, дуброва. Музыка Полаччыны"



"Зялён явар, дуброва. Музыка Полаччыны"- прэзентацыя першага музычнага альбома фальклорнага гурта "Варган" прайшла ў Полацку. У яго ўвайшло больш за трыццаць музычных твораў, абрадавыя і пазаабрадавыя песні ды інструментальныя найгрышы. Імпрэза адбылася ў канцэртнай зале Полацкага калегіюма. Падтрымаць гурт прыехалі фольк-гурт "Рада", Сяржук Доўгушаў, сябры, землякі ды іншыя. Як кажа кіраўнік гурта Вольга Емяльянчык, гэты дыск пабачыў свет дзякуючы падтрымцы многіх людзей. За гэта яна ўдзячная кожнаму, а асабліва Сяржуку Доўгашаву:

- Як кажуць удзельнікі гурта "Варган", калі б не Сяржук Доўгушаў, мы б яшчэ пяць гадоў збіраліся і невядома, ці сабраліся б пісаць дыск. Сяргей нам прапанаваў, нас натхніў і фактычна ўсю арганізацыйную працу па зборы сродкаў, па менеджменту, узяў на сябе, за што мы яму вельмі ўдзячныя. Мы адказвалі за творчы бок працэсу. Падчас канцэрту гучалі і аўтэнтычныя спевы ў выкананні жыхаркі в. Шастова Полацкага раёна Алімпіяды Шчарбаковай. Дзякуючы ёй гурт "Варган" аднавіў вялікую колькасць мясцовых спеваў, частка якіх увайшла ў альбом. Імпрэза скончылася вечарынай традыцыйных беларускіх танцаў.



***Таццяна Смоткіна,*** *Беларускае Радыё Рацыя.*

*Навіны Германіі*

# Праграма Тыдняў Германіі ў Беларусі




### Менск

**11./ 15.10 - 19.00.**

Культурны цэнтр "Корпус", пр. Машэрава, 9, корпус 8.

Вечары нямецкага кароткаметражнага кіно "SHORT EXPORT 2018".

Ужо трынаццаты год запар праграма SHORT EXPORT дэманструе неверагодна свежыя кароткаметражкі. Першакласная нямецкая кінапраграма стала вынікам супрацоўніцтва AG Kurzfilm, German Films, Інстытута імя Гётэ ў Ліёне, агенцтва KurzFilm-Agentur у Гамбургу і міжнароднага фестывалю кароткаметражных фільмаў у Клермон-Феране. SHORT EXPORT 2018 прадстаўляе шэсць адабраных кароткаметражак, якія адлюстроўваюць мастацка-эстэтычную і змястоўную разнастайнасць гэтага жанру ў Германіі. Фільмы гэтага года апавядаюць аб нечаканых сустрэчах і іх выніках, аб пошуках і знаходках. Цікавае баўленне часу гарантуецца.

**11 і 15 кастрычніка** у Культцэнтры "Корпус" кінапаказы будуць прадстаўлены беларускім кінакрытыкам.

На нямецкай мове з рускімі субтытрамі.

Уваход вольны.

Інстытут імя Гётэ.

**12.10, пятніца - 19.00.**

Галерэя "Арт-Беларусь", вул. Казлова, 3.

**Міжнародны тэатральны форум "Тэарт" прадстаўляе: Марк Ламерт.**

Сёлета Інстытут імя Гётэ прэзентуе ў межах Міжнароднага тэатральнага форуму аднаго з самых знакамітых сцэнографаў сучаснасці - Марка Ламерта. Ён распрацоўваў мастацкае вырашэнне да спектакляў такіх рэжысёраў, як Хайнер Мюлер, Дзімітэр Гочэф і Фолькер Шлёндорф. У галерэі "Арт-Беларусь" будуць прадстаўлены фатаграфіі яго сцэнічных работ.

www.teart.by.

Уваход вольны.

**14.10, нядзеля - 19.00.**

Кінатэатр "Ракета", зав. Рабочы, 3 (ст.м. "Пралетарская").

**Спецыяльны паказ "Кінемо" ў рамках Тыдняў Германіі 2018.**

У рамках Тыдняў Германіі 2018 у чатырох гарадах Беларусі адбудуцца спецыяльныя паказы шэдэўра Фрыдрыха Вільгельма Мурнау "Насферату, сімфонія жаху" ў жывым музычным суправаджэнні ад Five-storey ensemble. Музыку да фільма напісала беларуская арганістка і кампазітар Вольга Падгайская.

**"Насферату, сімфонія жаху", "Nosferatu, eine Symphonie des Grauens".**

Германія, 1922, 93 хв.

Рэжысёр: Фрыдрых Вільгельм Мурнау.

У ролях: Макс Шрэк, Густаў фон Вангенхайм, Грэта Шродэр, Аляксандр Гранах.

У 1838 годзе эпідэмія халеры спустошыла Вісбарг. У чым прычына трагедыі? Усё пачынаецца з паездкі службоўца агенцтва нерухомасці Томаса Хутэра ў таемны замак у Карпатах. Нягледзячы на неприязнасць праваднікоў, малады чалавек дабіраецца да замка і трапляе ў палон да яго гаспадара, упыра Насферату…

Першая вольная экранізацыя рамана Брэма Стокера "Дракула", фільм "Насферату, сімфонія жаху" па праве лічыцца шэдэўрам нямецкага экспрэсіянізму. У нямой карціне пры дапамозе трукаў з ценямі і асвятленнем Фрыдрых Вільгельм Мурнау стварыў чароўную і пужлівую атмасферу начнога кашмару і заклаў асновы стылю, якому было наканавана беспаваротна змяніць ход гісторыі кіно.

Фільм Мурнау, які натхніў на стварэнне відавочных (і не вельмі відавочных) рымэйкаў мноства рэжысёраў - ад Вернера Херцага ("Насферату, прывід ночы") да Абеля Феррары ("Кароль Нью-Ёрка" і "Залежнасць" і Эліаса Мерыджа ("Цень упыра"), дагэтуль застаецца непахісным прыкладам жанру "хорар".

**Five-storey ensemble**

Склад: Вольга Падгайская (арган), Віталь Эпаў (духавыя), Аксана Герасімёнак (скрыпка).

Ансамбль сучаснай камернай музыкі Five-storey ensemble існуе ўжо больш за пяць гадоў. Касцяком калектыву з'яўляюцца кампазітары Вольга Падгайская і Віталь Эпаў, творы якіх складаюць аснову рэпертуару ансамбля. Калектыў актыўна супрацоўнічае з тэатральнымі праектамі, а таксама піша музыку да кіно.

**"Кінемо"**

"Кінемо"- адзіны ў Беларусі open air фестываль, у рамках якога дэманструюцца нямыя фільмы класікаў сусветнага кінематографа, агучаныя сучаснымі музыкамі і кампазітарамі. Фестываль заснаваны праектам Cinemascope і Асацыяцыяй маладых беларускіх кампазітараў.

Квіткі ў касах кінатэатра і на сайце bycard.by.

**15.10-15.11 - 10.00-18.00.**

Абласная бібліятэка імя Пушкіна, вул. Гікалы, 4.

**Выстава "Дакрануцца да матэматыкі".**

Выстава "Дакрануцца да матэматыкі" прадстаўляе, верагодна, самую абстрактную з усіх навук так, што яна становіцца бачнай для пачуццяў, і робіць яе зразумелай для ўсіх узроставых груп - так, што для зразумення непатрэбна наяўнасць адмысловых ведаў.

Наведвальнікам любога ўзросту, з любым узроўнем адукацыі прапануецца паэкспериментаваць: яны складаюць пазлы, будуюць масты, ламаюць галаву падчас гульні ў косткі, назіраюць за катаннем шароў, ствараюць цудоўныя мыльныя скуры - і пры гэтым як бы між іншым займаюцца матэматыкай.

### Гародня

**17.10, серада - 19.00.**

Кінатэатр "Чырвоная зорка", вул. Сацыялістычная, 4.

**"Насферату, сімфонія жаху", "Nosferatu, eine Symphonie des Grauens".**

Германія, 1922, 93 хв.

Рэжысёр: Фрыдрых Вільгельм Мурнау.

У ролях: Макс Шрэк, Густаў фон Вангенхайм, Грэта Шродэр, Аляксандр Гранах.

**Five-storey ensemble.**

Склад: Вольга Падгайская (арган), Віталь Эпаў (духавыя), Аксана Герасімёнак (скрыпка)

Ансамбль сучаснай камернай музыкі Five-storey ensemble існуе ўжо больш за пяць гадоў. Касцяком калектыву з'яўляюцца кампазітары Вольга Падгайская і Віталь Эпаў, творы якіх складаюць аснову рэпертуару ансамбля. Калектыў актыўна супрацоўнічае з тэатральнымі праектамі, а таксама піша музыку да кіно.

**"Кінемо".**

"Кінемо"- адзіны ў Беларусі open air фестываль, у рамках якога дэманструюцца нямыя фільмы класікаў сусветнага кінематографа, агучаныя сучаснымі музыкамі і кампазітарамі. Фестываль заснаваны праектам Cinemascope і Асацыяцыяй маладых беларускіх кампазітараў.

Уваход вольны.





*Да 155-годдзя паўстання 1863 г.*

## *Апалонія з Далеўскіх Серакоўская*

# Успаміны

Вычытаныя весткі адразу разносіў калегам, няраз будзячы іх сярод ночы, каб хутчэй нейкай весткай падзяліцца. Кожнае няшчасце сувыгнанцаў жыва яго хвалявала, і адразу ў меру магчымасці стараўся парадзіць яму, дапамагчы.

**П**асля прыезду Пяроўскага разыгралася смутная драма ў коле выгнанцаў, у адной з малых фартэцаў Арэнбургскага краю, у Орску[203]. Быў там прыгавораны ў рабочую роту малады Дабкевіч, слабога здароўя, але вялікага гонару. Камендант Недабраво, які не цярпеў палякаў, здзекаваўся з яго. Аднаго дня, спаткаўшы яго вяртаўшагася з работ, затрымаў, злаяў і закончыў словамі: "Подлы, як увесь твой народ". Дабкевіч, які цярпліва знёс асабістыя абразы. на тыя словы кладзе сякеру, якую нёс з работы, на зямлю, бярэ розгу і б'е ёй палкоўніка, гаворачы: "Мяне можаш лаяць, але народу майго не смей!"

Дабкевіч аддадзены пад вайсковы суд, быў прыгавораны да 6000 палак. Пяроўскі, не могучы скасаваць прыгавор, зменшыў яго да 1000. На экзекуцыю Зыгмунта прывезлі ў Арэнбург. Зыгмунт ужыў усе спружыны, каб таму перашкодзіць. Разлічваў і на тое, што лекары выкажуцца, што Дабкевіч не зможа вытрымаць палак. Дактары былі гатовы выдаць жаданае пасведчанне чалавеку бледнаму, шчупламу, які, здавалася, адной нагой стаіць у магіле, але той на запытанне засведчыў, што здаровы і пакаранне вытрымае.

Гаварыў потым, што сумленне не дазволіла салгаць, і верыў, што паколькі не зрабіў нічога кепскага, то тое, што на яго Бог пасылае, вытрымаць можа.

Заставаўся яшчэ адзін сродак выратавання яго, дамовіцца з салдатамі, ад удараў якіх залежала жыццё або смерць прыгаворанага да палак. Зыгмунт са звыклай для яго энергіяй і запалам заняўся той справай. Таварышы злажыліся на пачастунак для салдатаў, а ён патрафіў да іх так прамовіць, так іх праняць, што прыгаварылі, што з Дабкоўскім нічога не станецца. Выканалі абяцанне. Прыгавораны на атрыманне 1000 палак меў ледзьве некалькі чырвоных пясюгоў на плячах. Дабкевіч праз некалькі гадоў вярнуўся на Бацькаўшчыну, а жыццём сваім быў удзячны Зыгмунту, які правёў дні старанняў за яго ацаленне ў гарачкавым стане.

**У** салдацкім жыцці, пераплеценым разумовай працай, гутаркамі з таварышамі па нядолі, навучаннем дзяцей, прайшлі для Зыгмунта найлепшыя гады маладосці.

У 1854 годзе, атрымаўшы падафіцэрскае званне, па ўласным жаданні быў выкліканы ў стэп. Некалькі месяцаў назад Пяроўскі здабыў какандскую цвердзь Ак-Мячэць, за 500 вёрст на ўсход ад Аральскага мора над Сыр-Дар'ёй. Здабыча гэтая была для Расіі важнай, паколькі злучала яе арэнбургскія ўладанні з сібірскімі, адкрывала дарогу ў Індыю і называлася Сыр-Дар'інскай лініяй. Пастанавілі збудаваць некалькі малых фартэцаў над гэтай ракой, а з Ак-Мячэці, пераназванай у форт Пяроўскага, зрабіць сапраўдны пункт абароны, які панаваў бы над стэпам.

Для перабудовы фартэцы прызначылі інжынера генерала Бурнеўда (Burneaud), капітана сапёраў пад Ватэрлоа, а пасля разгрому Напалеона служыўшага ў расійскім войску. Быў гэта чалавек вялікай шляхетнасці. Зыгмунта прызначылі пад яго каманду. На працягу некалькіх гадоў, якія правёў над Сыр-Дар'ёй быў ён правай рукой таго шаноўнага старца. Зыгмунт надзіраў за работамі, засноўваў цагельню, а жыццё ў тым новым краі, дзе нібы закладаліся падваліны цывілізацыі, займала і прыцягвала агністае ўяўленне выгнанца. Выкарыстоўваныя для работ кіргізы, дзеці прыроды, прастатой і наіўнасцю сваёй кранaлі паэтычны і чулы бок яго душы. Зыгмунт хутка стаў іхнім улюбёнцам. Прывыкшыя да іншага зусім абыходжання з імі маскалёў, выпрошвалі заўсёды, каб малады паляк ім загадваў і заробленыя грошы ім выплачваў. Зыгмунт з уласцівай для яго энергіяй узяўся за вывучэнне татарскай мовы; праз хуткі час мог ужо з імі размаўляць. Калі даходзіла да выплат, стараўся заўсёды мець дробныя срэбныя грошы, каб кожнаму мог выплаціць у рукі належнае, любімымі дзецьмі стэпу, срэбнымі манетамі, што іх набольш захапляла. Дзейная натура Зыгмунта, знайшоўшы там пажыву для сябе, пачувалася над Сыр-Дар'ёй больш шчаслівай, чым у Арэнбургу. Кола сутаварышаў палякаў, якіх і там застаў, яшчэ больш скрасіла яму той побыт. І ўмеў знайсці пры тым усім хвілі для навучання і развіцця маладога хлопца, сына расейскага купца, якога там знайшоў (Лёўка Кібераў). Была гэта адна з уласцівасцяў яго істоты, што на маладую, дзяціную яшчэ душу, рабіў асаблівы ўплыў, як бы магнетычнай сілай прыцягваў яе да сябе і пад подыхам яго агністай і поўнай любові душы, развівалася яна хутка, як кветка пад сонца промнем. Маладзенькі хлопец прынік да яго ўсім сэрцам і праз некалькі год, ужо пасталеўшы, вёў з ім перапіску, звяртаючыся па параду, як да бацькі.

Пасля некалькіх месяцаў Бурнеўд вярнуўся ў Арэнбург, і Серакоўскі перайшоў пад каманду начальніка Сыр-Дар'інскай лініі, генерала Фітынгофа, у той час пасланы ў аддзеле, выпраўленым для пагоні за какандцамі, якія, не могучы адабраць Ак-Мячэць, нападалі на расейскія табуны, наносячы шкоду ахове, Зыгмунт ледзь жыццём не паплаціўся. Было гэта ў студзені, дзень быў цёплы, як часта здараецца зімой у тых краях, і неабачлівы генерал выбраўся ў дарогу, узяўшы намёт і цёплую вопратку толькі для сябе аднаго, а не падумаў ніколькі пра салдат. На трэці дзень мароз $25^{O}$ застаў лёгка апрануты аддзел сярод голага стэпу. Грозная смерць была блізкая, і толькі прытомнасць і энергія некалькіх палякаў, якія па пяць гадоў пражылі ў стэпе і былі абазнаныя з тамтэйшым жыццём, выратавалі аддзел.

У той час памёр цар Мікалай. Зыгмунт Серакоўскі па прадстаўленні Бурнеўда і Пяроўскага атрымаў афіцэрскі чын і мог нарэшце пакінуць Арэнбург[204].

**П**аводле выказванняў людзей, якія ад 1846 года дзейнічалі побач з Зыгмунтам Серакоўскім, ва ўмовах дэмакратызацыі асноў жыцця ў Расіі роўна як у коле польскім, так і ў коле расійскім уплыў Зыгмунта быў невымерны.

Дзейнічаў сам, пранікнуты пачуццём веры, надзеі і любові, прышчапляў таксама ў паніклыя душы веру ў мэтавасць жыцця, надзею на вызваленне ад сіл, якія абцяжарваюць рух да волі духу і побыту прыгнечаных народаў, любоў і справядлівасць да слабых і прыгнечаных.

Калі Зыгмунта не стала ў 1848 годзе, польскае кола распалася, але найбліжэйшыя да яго калегі, якія гарэлі пачуццём любові да Бацькаўшчыны, працавалі далей.

У той час калегі-расейцы дзяліліся на мірных, паводле ідэй, прышчэпленых польскім колам, і рэвалюцыйных - праз Герцэна і іншых расейскіх эмігрантаў. Першыя ствараюць кола людзей добрай волі, дзякуючы якім, г.зн. іхнім стараннем, Зыгмунт з Арэнбурга прыбывае ў сталіцу пасля адмены жорсткага закона для сасланых у салдаты палякаў не даваць ім ні адпускоў, ні адстаўкі, пакуль не выслужаць 10 гадоў у званні афіцэра; як таксама пасля адмены адначасна ўжо толькі Зыгмунта неабходнасці выслужыць у званні афіцэра два гады на фронце.

Браніслаў Залескі піша пра Зыгмунта: *"Дзевяць цяжкіх гадоў прайшло ад хвілі, калі Серакоўскі ў суправаджэнні жандармаў пакідаў Пецярбург. Маладзён, які растачаў у той час перад Арловым і Дубэльтам свае паэтычныя мары і маладзенькую веру, вяртаўся сёння мужчынам, больш сканцэнтраваным ужо ў сабе, які ведаў жыццё з многіх бакоў, але заўсёды роўна палымяна любіў Бацькаўшчыну і нават усё чалавецтва. Некалькігадовае жыццё ў казармах і вайсковых шэрагах пазнаёміла яго непасрэдна з усімі цяжкасцямі і горасцямі маскоўскага салдата, паступаючы ў вайсковую акадэмію[205] і маючы праз гэта адкрытую дарогу ў Генеральны штаб, пастанавіў усе свае здольнасці і працу прысвяціць найперш прынясенню палёгкі тым няшчасным".*

**З**ыгмунт вяртаецца з Арэнбурга з шырокай, вялікай, далёка сягаўшай праграмай не тапіць трона, Расіі і ўласнай Бацькаўшчыны ў моры крыві, а шляхам разумных рэформ ісці да аўтаноміі ў Польшчы праз канстытуцыю, прынятую ў дзяржаве.

Вырашаў праз уплыў людзей добрай волі, саноўных, высока стаяўшых і яму адданых прыбіраць з установаў нягодных кіраўнікоў справамі дзяржавы, абсаджаць установы як найадпаведнейшымі, найшляхетнейшымі для гэтага людзьмі і такімі атачаць трон, каб пад іх уплывам выйшла ініцыятыва канстытуцыі ад цара, якога ўважаў прызнаваць за рэч абавязковую пры наяўным стане рэчаў у дзяржаве і ў жыцці людзей, якія яе насялялі. (У той ролі найчыннейшым і найкарыснейшым быў кузін, з Раманавых князь Сувораў, пры двары ў ролі сямейнага дарадцы і княжна Алена Паўлаўна.)

Цытую словы Браніслава Залескага: *"Акалічнасці, здавалася, таму спрыяюць і прынамсі заспакойваюць надзеі шляхетнай душы. Царстваванне Аляксандра распачалося абвяшчэннем вялікіх рэформ. Прыніжаная ў Крымскай[206] кампаніі Расія, хутка адышла ад улюбёнасці, якой агульна была прасякнута, да Мікалая пад уплывам агітацыі расейцаў, якія прыступілі да крытыкі ўсякіх яго рэакцыйных распараджэнняў, нязгодных з поступам XIX стагоддзя. Імператар Аляксандр выказвае жаданне рэформ, даваляючы нават сялянскую рэформу, пра якую прасіла літоўская шляхта. Даручае стварыць некалькі камісій, якія мелі падрыхтаваць праекты найразумнейшых рэформ".*

У той час пачынаюць змагацца ў Расіі два магутныя ўплывы: Герцана і таксама іншых эмігрантаў, г.зн. рэвалюцыйны і мірны, шырока прапагандаваны людзьмі добрай волі, якія прагнулі ўвядзення заходніх інстытуцый, без пралівання крыві, дэмакратычна-канстытуцыйна. Абодва тыя бакі заклікалі да неабходнасці рэформ.

Урад прыніжаны Крымскай вайной цешыў сваё грамадства і замежную думку паказным лібералізмам. Больш за дзясятак камісій працавала без ніякай сумеснай ідэі, таму іхняя праца не магла прынесці карысці без удзелу людзей сапраўднай добрай волі.

Кожны з мацнейшых розумаў меў абазначаны шлях, ішоў па ім, ствараючы кола, не аглядваючыся, не ўнікаючы ў працу іншых, ішоў па ім з думкай зрабіць як найлепей, як найболей і як найхутчэй (народ церпіць). Серакоўскі заняўся праектамі неабходных рэформ і арміяй; Кастамараў, Кавелін і Спасовіч з колам юрыстаў і прафесараў; Панц[ялееў][207] і Бальтазар Каліноўскі - універсітэцкая моладзь; Тургенеў, Талстой, Чарнышэўскі[208] і шмат іншых выказваюць салідарнасць, кепскі ўплыў ураду на ўсё грамадства, уціск народа і да т.п. патрабуюць рэформаў на ўсіх палях. Агрызка меў у сваім уладанні польскую касу, а для дабра Польшчы стаяў на варце раздачы пасад, будзіў пільнасць расійскага грамадства, каб не дапускаць людзей старой, знікчэмнелай руціны з мікалаеўскіх часоў, невукаў і хабарнікаў на пасады. Князь Д[аўгарукаў] у жандармерыі сочыць за выкараненнем фальшывых даносаў і за бяспекай кола [Канст., Гніокр.? Ферд. Рэз.?[209]] рэдактар апускаецца да найніжэйшых слаёў, пільнуе, збірае і размяшчае бяздомную дзятву. Пад уплывам Зыгмунта нават такія "Маскоў[скія] Ведамасці"[210] становяцца да паслуг ліберальнага боку і стаяць на баку паступальнага руху.

На колькі бачыць, ведаць і зразумець магла, увесь той рух пасоўваўся хутка і з моцным уплывам наперад, захопліваючы праменнямі ідучымі з Пецярбурга ад класа, які стаіць найвышэй, пачынаючы ад трона ў найбліжэйшым коле, абдымаючы ўсю Расію. Тым ён адрозніваўся ад рэвалюцыйнага, які найперш узрушаў найніжэйшыя слаі, народ. Мірная партыя лічыла той рух за небяспечны і шкодны для краю ў выпадку, калі б забракла перадавікоў, народ першы паў бы ахвярай.

Цяжкае гэта было заданне, але нейкі час яно трыумфавала, нягледзячы на структуры рэвалюцыйна-анархічныя, нігілістычныя, якія зрывалі працу, а хутчэй на нейкі час абцяжарвалі яе. Нігілізм перашкаджаў роўна як рэвалюцыйнай, так і мірнай працы, сеючы асновы поўнага перавароту, залівання крывёй, вынішчэння ўсяго грамадства. Калі пыталіся, што далей пасля знішчэння? адказвалі: "Няхай з нічога яшчэ раз свет вылупае, няхай стары. згнілы паслужыць за ўгнаенне для прышлага, новага".

Прыпамінаецца мне хвіля спаткання Бэрві з маёй сям'ёй на караблі, які ішоў Волгай у бок Пярмі[211]. Яго везлі ў Сібір з жонкай (на колькі памятаю, княжной Галіцынай[212], з якой узяў шлюб у вязніцы) з дачушкай і з малюткім сынком. Мела галаву з коратка астрыжанымі валасамі, апранута была ў шэрую сукманку, бегала, гушкаючы сынка, па караблі, называючы яго "малым мілым катаржнікам".

Бэрві, бачачы маці маю і сясцёр у жалобе, з жандармамі наблізіўся, представіўся і паведаміў ім, што яго вязуць на цяжкія працы ў Сібір. Пры той аказіі гаварыў доўга з запалам распавядаючы свае тэорыі, у канцы дадаў, што і ён верыць ва ўваскрасенне Расіі пасля трох дзён.

Першы дзень пануе ў ёй цемра і хаос . Сярод глыбокай цемры часу ад часу слабыя пробліскі святла, але яно служыць толькі для таго, каб аблегчыць паўзучым гадам і дзікім бестыям лавіць, душыць і жэрці істотаў, створаных на вобраз і падабенства людзей, якія хаваюцца ад бестыяў у цемры (бюракратыя на вяршыні сваёй моцы).

Другі. Істоты, створаныя на вобраз і падабенства людзей, прагнуць жыць і бачыць святло, бароняцца, нішчаць дзікіх бестый (рэвалюцыя).

Трэці дзень міру, людзі, выкупаныя ў крыві дзікіх звяроў, запальваюць святло, жыццё пачынаецца.

*(Працяг у наст. нумары.)*

---

203 Орск - цвердзь над Уралам, 220 км ад Арэнбурга.

204 Серакоўскі закончыў службу ў II.1856 г. У верасні прыбыў у Пецярбург, атрымаў прызначэнне ў падсталічны полк кавалерыі, у 1857 г. атрымаў званне падпаручніка.

205 У жніўні 1857 г. Серакоўскі паступіў у Акадэмію Генеральнага штабу ў Пецярбургу. Рыхтавала між ін. спецыялістаў у вобласці статыстыкі, чым цікавіўся Серакоўскі.

206 Закончаная паразай вайна Расіі з Турцыяй, Францыяй і Англіяй (1853-1856); выявіла слабасць Расіі, даючы повад для правядзення рэформ царом Аляксандрам II.

207 Панцялееў успамінаў Серакоўскага: *"Карыстаўся велізарным уплывам у польскіх колах і меў разлеглыя стасункі ў расійскіх таварысцкіх сферах, а з многімі расейцамі быў нават у вельмі цесным сяброўстве"*; W. Pantielejew, Wspomnienia, Варшава, 1964. с. 106.

208 Падобна, як шмат палякаў у Пецярбургу і Маскве, Серакоўскі належаў да кола знаёмых і супрацоўнікаў Чарнышэўскага.

209 Постаці не ідэнтыфікаваныя; тэкст нечытэльны.

210 "Московкие ведомости" - расійская газета, якая выдавалася ў 1756 - 1917 гг. Выражала інтарэсы кансерватыўнай часткі расійскай эліты.

211 Пермь - губернскі горад над ракой Камай (на сярэднім Урале), блізка ад Кунгура, у які вывезлі маці і сясцёр Далеўскіх.

212 Жонкай Бэрві-Федароўскага была Эрміёна Бэрві з Жамчужных (пам. у 1924 г.).

# У Наваградку адсвяткавалі 220-годдзе з дня нараджэння Адама Міцкевіча




Міжнароднае свята паэзіі "О, Навагрудскі край - мой родны дом…", прысвечанае 220-годдзю з дня нараджэння Адама Міцкевіча, праходзіла ў Навагрудку 5-7 кастрычніка.

Асноўны дзень імпрэзы - 6 кастрычніка - пачаўся з цырымоніі ўрачыстага адкрыцця. Яркі тэатралізаваны пралог на аснове твораў Адама Міцкевіча падрыхтавалі артысты і музыкі заслужанага калектыва Рэспублікі Беларусь "Беларускі дзяржаўны акадэмічны музычны тэатр", а ў ролі знакамітага паэта выступіў акцёр Купалаўскага тэатра Раман Падаляка.




Удзел у імпрэзе прынялі старшыня Навагрудскага райвыканкама Анатоль Маркевіч, кіраўнік справаў Гарадзенскага аблвыканкама Ігар Папоў, дэпутат Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь шостага склікання Вольга Папко, генеральны консул Рэспублікі Польшчы ў Гародні Яраслаў Ксенжак, вядомыя выхадцы з Наваградчыны, госці з іншых рэгіёнаў вобласці.

- У свеце ёсць месцы, звязаныя з выдатнымі гістарычнымі асобамі, архітэктурнымі помнікамі і музеямі. І проста цудоўна, калі ўсё гэта ёсць адразу. Такім месцам у Беларусі, бясспрэчна, стаў Навагрудак, - адзначыў Анатоль Маркевіч, падчас адкрыцця свята. - Наш горад - з найстаражытнейшых і важных гістарычных цэнтраў Беларусі. Ён з'яўляецца традыцыйным месцам для правядзення рэспубліканскіх святаў у азначэнне юбілейных датаў, звязаных са значнымі гістарычнымі падзеямі і асобамі. Пачатак гэтаму быў пакладзены ў 1996 годзе, калі ў горадзе прайшло трэцяе рэспубліканскае свята Дзень беларускай пісьменнасці. Навагрудак сёння - адзін з самых папулярных турыстычных цэнтраў не толькі сярод беларусаў, але і сярод замежных гасцей. Нядзіўна, бо тут шмат месцаў, дзе бывалі вядомыя ва ўсім свеце асобы.

Наваградчына - радзіма Адама Міцкевіча. Яго імя вось ужо больш двух стагоддзяў вядома амаль кожнаму чалавеку, - падкрэсліў кіраўнік раёна. - "О, Навагрудскі край - мой родны дом…" Так пісаў знакаміты паэт пра Навагрудскую зямлю, дзе беражна захоўваюць памяць пра яго. Паэт, публіцыст, прафесар двух універсітэтаў, грамадска-палітычны дзеяч, А. Міцкевіч падтрымліваў сувязь з многімі вялікімі людзьмі свайго часу - Аляксандрам Пушкіным, Фрэдэрыкам Шапенам, Напалеонам Ордам, Міхалам Агінскім і іншымі. Мы вельмі ганарымся, што імя нашага земляка, які ўславіў на ўвесь свет сваю малую радзіму - Навагрудскую зямлю - стаіць у адным шэрагу з імёнамі найвялікшых пісьменнікаў, класікаў сусветнай літаратуры. Менавіта Наваградчына, цікавыя людзі, яе пейзажы і легенды былі асноўнай крыніцай натхнення для паэта.

З першым Міжнародным святам паэзіі ў г. Навагрудку "О, Навагрудскі край - мой родны дом…" прысутных павіншаваў Ігар Папоў.

- Імя Адама Міцкевіча з'яўляецца культавым не толькі для Наваградчыны, але і для ўсіх нас, - адзначыў Ігар Папоў. - Яго творчасць узбагаціла польскую літаратурную мову вершаскладання, яна паслужыла далейшаму развіццю беларускай літаратуры. Сёння яго творчасць цалкам ці часткова перакладзена на 22 мовы, а таксама на мову кінематаграфіі і тэатра. На Наваградчыне свята і з вялікай любоўю беражэцца памяць пра знакамітага земляка. Тут знаходзіцца музей яго імя, праходзяць навуковыя канферэнцыі і выставы, адроджана традыцыя баляў. У 2018 годзе аблвыканкамам былі вылучаны сродкі з бюджэту на рамонт Дома-музея А. Міцкевіча. Прынёманне - гэта край, які багаты гісторыяй і імёнамі, і адно з іх - гэта імя Адама Міцкевіча. Я ўпэўнены, што сённяшняе свята паэзіі паслужыць далейшаму увекавечванню памяці нашага знакамітага земляка.







Яркі і незабыўны выступ акадэмічнага музычнага тэатра працягнуўся праграмай "Я маю край, радзіму дум маіх…".




*Анастасія Пятрова.*

# Гарбузовы фэст у аграгарадку Ходараўцы

### *У Лідскім раёне вызначылі самы вялікі гарбуз…*

*Сонца ў небе ярка грае,*
*Гарбузовы фэст вас сустракае!*
*Надыйшоў вясёлы час,*
*Запрасіла свята вас -*
*Усіх, хто добра працаваў -*
*Гарбузы ўсе сабраў.*
*Гэй, музыкі, дружна граймце,*
*Наша свята адчыняйце!*

…Такімі цудоўнымі словамі 29 верасня ў аграгарадку Ходараўцы распачалося брэндавае мерапрыемства - гарбузовы фэст "Каралева восені", які, дарэчы, праводзіўся ўпершыню.

Пра тое, што ў аграгарадку Ходараўцы свята, можна было здагадацца, яшчэ толькі падыходзячы да сельскага клуба-бібліятэкі. На пляцоўцы каля яго здалёк былі відаць аранжавыя бакі гарбузоў незвычайных памераў і яркія вырабы з іх. Ідэя зрабіць гарбуз галоўным героем урачыстасці належыць работнікам Лідскага раённага цэнтра культуры і народнай творчасці, а таксама творчаму калектыву Ходараўскага клуба-бібліятэкі.



У гэты дзень з надвор'ем пашанцавала, і восеньскае свята, якое старанна рыхтавалі работнікі сельскай клубнай установы, сабрала шмат гледачоў. Ля Ходараўскага клуба-бібліятэкі было шматлюдна, весела і гучна. Першым узяў слова і павіншаваў удзельнікаў свята старшыня КСУП "Ходараўцы-Агра" Аляксандр Мар'янавіч Грынкевіч, які выказаў словы ўдзячнасці вяскоўцам за такі добры ўраджай, павагу ўсім, хто старанна працаваў увесь год, пажадаў добрага здароўя і дабрабыту ўсім жыхарам аграгарадка Ходараўцы.

На гарбузовы фэст гасцей запрашалі ветлівыя і гаварлівыя суседкі. Яны прапаноўвалі ацаніць прысмакі з гарбузоў. Тут былі і каша, і пірагі з гарбуза, варэнне і джэм, гарбуз з салёнымі агуркамі і зялёным гарошкам, гарбуз з курыным мясам, гарбузовы суп, гарбуз у цукры і нават квас з гарбуза. На выстаўцы-дэгустацыі страў "Гарбузовыя прысмакі" госці свята не толькі падзівіліся разнастайным стравам з гарбуза, але і паласаваліся імі. Дэгустацыі гарбузовай кашы і супу парадавалі аднавяскоўцаў, а новыя рэцэпты страў прыемна здзівілі ўсіх гаспадынь. Дарэчы, за лепшыя стравы, гаспадыні, якія гатавалі дзівосныя пачастункі, былі ўзнагароджаны падарункамі ад спонсараў мерапрыемства.

У межах свята была арганізавана выстаўка разнастайных дарункаў восені "Гарбузовы цуд", работ дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва жыхароў аграгарадка, праводзіліся майстар-класы па карвінгу на гарбузах.

Трапна ўпрыгожаная сцэна, мноства разнастайных пляцовак, лакацый- фотазон і цікавая праграма гарбузовага фэсту парадавалі наведвальнікаў.

Увесь час на свяце працавала гульнёва-забаўляльная пляцоўка з аквагрымам, атракцыёнамі для дзяцей і дарослых. Усе ахвотныя маглі паўдзельнічаць у гульнях "Меткі кідок", "Дзыгалкі цераз гарбуз", "Катанне гарбуза" і іншых.

У межах свята праводзіліся конкурсы "Гарбузовыя прысмакі", "Гарбузовы цуд" (лепшая работа ў тэхніцы квілінгу), "Лепшы гаспадар агароду" (самая вялікая колькасць вырашчаных гарбузоў) і "Каралева восені 2018" (самы вялікі гарбуз аграгарадка Ходараўцы).



Жыхары аграгарадка загадзя рыхтаваліся да свята і з задавальненнем паўдзельнічалі ў аб'яўленых конкурсах. У выніку кампетэнтнае журы вызначыла пераможцаў у пяці намінацыях. Пераможцай у намінацыі "Лепшы гаспадар агароду" стала Ганна Камінская, а падарункам за самы вялікі гарбуз быў узнагароджаны дбайны і руплівы гаспадар Ходараўскага падворка Уладзімір Вітко. Яго гарбуз-волат заважыў 97 кілаграмаў. За такі ўраджай гаспадару быў уручаны сельскагаспадарчы прыз - мех капусты ад КСУП "Ходараўцы-Агра".

На працягу свята добры настрой вяскоўцам і гасцям дарылі лепшыя артысты Лідскага і Шчучынскага раёнаў. Гарбузовы фэст працягваўся да позняга вечара і завяршыўся танцавальным марафонам.

Брэндавае мерапрыемства так спадабалася і гасцям, і арганізатарам, што ў наступным годзе запланавана правесці яго з вялікім размахам.

*Вядучы метадыст аддзела метадычнай і культурна-масавай работы ДУ "Лідскі раённы цэнтр культуры і народнай творчасці"*
***В.Р. Троцкая.***





# Новы маршрут - па-беларуску

Новы цікавы турысцка-экскурсійны маршрут распрацавалі і ўладкавалі вучні Пастаўскай гімназіі разам з супрацоўнікамі Нацыянальнага парку "Нарачанскі". Ён праходзіць па тэрыторыі прыродна-гістарычнага комплексу "Крыжоўкі" на мяжы Пастаўскага і Мядзельскага раёнаў. Гэты комплекс быў вылучаны вучнямі Пастаўскай гімназіі і вывучаўся на працягу 2012-2018 гадоў. За гэты час у вандроўках удзельнічала 47 гімназістаў, 6 вучняў з іншых школ горада. У 2018 годзе было праведзена 5 экспедыцый па тэрыторыі гэтага комплексу, прычым, дзве з іх - разам з супрацоўнікамі Нацыянальнага парку "Нарачанскі", якія аказалі навуковую і метадычную дапамогу пры распрацоўцы праекту. Ідэю праекту падтрымала і грамадская культурніцкая кампанія "Будзьма беларусамі!". У жніўні гэтага года турысцка-экскурсійны маршрут па комплексу "Крыжоўкі" быў уладкаваны: пракладзены дзве сцежкі (вялікае і малое кола), прымацаваны інфармацыйныя табліцы, павешаны ўказальнікі, падрыхтаваны даведнік і буклет, распрацавана схема і інфармацыйны банер. У работах па маркіроўцы маршруту ўдзельнічалі вучні, студэнты, супрацоўнікі Нацыянальнага парку "Нарачанскі", сябры Пастаўскай арганізацыі ТБМ.



*Альгердаў шлях*

Маршрут можа задаволіць густы самых патрабавальных аматараў падарожжаў, бо ўключае адметныя аб'екты прыроды, гісторыі і культуры, якія ў большасці з'яўляюцца рэдкімі або ўнікальнымі для Беларусі. Няпоўны пералік найбольш цікавых аб'ектаў на маршруце сведчыць пра незвычайную яго насычанасць: германскія і расійскія ўмацаванні і пахаванні часоў Першай сусветнай вайны, рэшткі міжваеннай гідратэхнічнай сістэмы з падмуркам млына, склеп на месцы былога сельскагаспадарчага вучылішча, падмурак і кавалкі чорнага базальту на месцы капліцы-маўзалея У. Друцкага-Любецкага, помнік на месцы бою 1944 г., тры рознавысотныя невялічкія, але вельмі прыгожыя Сарочынскія возеры, папуляцыі капавых асін, глогу і трэнтаполіі - чырвонай водарасці, якая занесена ў Чырвоную кнігу Беларусі, месца знаходак акамянеласцей даўнейшых геалагічных эпох у размыве марэны і іншыя. З гэтай мясцовасцю звязаны лёс паэта Уладзіміра Дубоўкі, князя-мецэната Уладзіміра Друцкага-Любецкага. Адметнасцю маршруту з'яўляецца яго беларускамоўнае афармленне: усе надпісы на галоўным банеры і інфармацыйных табліцах пададзены на роднай мове.

Падрабязная характарыстыка маршруту падаецца ў даведніку "Прыродна-гістарычны комплекс "Крыжоўкі": турысцка-экскурсійны маршрут" (аўтары І. М. Пракаповіч, А. А. Януш), які выдадзены ў выдавецтве "Каўчэг" таксама па-беларуску і ўключае 70 старонак апісанняў з каляровымі ілюстрацыямі ўсіх адметных мясцін. Інфармацыю таксама можна знайсці на сайтах Нацыянальнага парку "Нарачанскі" і Пастаўскай гімназіі.

Турысцка-экскурсійны маршрут па прыродна-гістарычным комплексе "Крыжоўкі" можа выкарыстоўвацца ў рэкрэацыйных, пазнавальных і вучэбных мэтах групамі школьнікаў і студэнтаў, людзей, якія адпачываюць у курортнай зоне "Нарач" і на аграсядзібах, падарожнікамі-індывідуаламі.

*Ігар Пракаповіч,*
*настаўнік геаграфіі,*
*кіраўнік праекту.*



*Возера В. Сарочынскае*




*Вокладка даведніка*



*Германскі бліндаж*




*Банер каля Варанца*

## Надзея Саўчук-Германовіч



**ВЫЦІНАНКІ**

*Не ведаю, навошта так люблю,*
*Напэўна,*
*каб прыдбаць Карону роду…*

Я месца на зямлі шукала,
Дзе сэрца каралеўскае ў спакоі.
Чамусьці мне так часта не ставала
Чароўных гукаў велічнай Гародні.

Ад года ў год я сумна назіраю,
Як квецяць зоркі ноччу неба столь,
Я зноў і зноў пра сэрца забываю,
Яно маўчыць, яно трывае боль.

Дарогамі жыцця,
сцяжынкамі кахання
Ішла я да цябе, куды ж яшчэ ісці?
Натхнёная на поспехі чаканнем,
Я абірала ролю для сябе ў жыцці.

Вырашэнні дзённых фарбаў
я шукала,
Ад колеру да колеру,
ад цэнтру ў кут,
І з беллі выцінанкі выцінала
Без мук душэўных і пакут.

Каб першае каханне недзе бокам
Не прашмыгнула ціхенька на ранні,
Каб не паверыць раптам ненарокам,
Што шлюбны вечар
лепшы за каханне.

**Старая Гародня**

Гародня даўняя, як казка!
Што жыве сваім жыццём;
Рамана доўгага развязка,
Гародня - горад-забыццё.

Між ціхай песні, пастаралькі
Тут усё дыхае інакш,
І малюе фарбай яркай
Мне мастак жывы пейзаж.

Ён бліскоча па каменнях
І зліваецца ў сюжэт
Тонкі, мяккі ды праменны
Горад, нібы іншы свет!

Па шэрых дахах ціхіх хатаў
Імжыць мой сум, ліецца звон,
І паланэз гучыць з-за кратаў
У рытме подыху вякоў!

Я там жыву, дзе дыхае Гародня!
І азарэннем блішча прыгажосць,
І ўражвае наш горад сёння,
Сівых стагоддзяў мілы госць.

*Рэдактар Станіслаў Вацлававіч Суднік*

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі* № 908 ад 18 снежня 2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
*Адрас рэдакцыі:*
231293, Лідскі р-н, в. Даліна.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* naszaslowa@tut.by

*Рэдакцыйная калегія:*
Алена Анісім, Юрась Бабіч, Юля Бажок, Марыя Баравік, Аляксей Карпенка, Эла Оліна, Ігар Пракаповіч, Аляксей Пяткевіч, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Людвіка Таўгень, Алег Трусаў, Дзяніс Тушынскі, Аляксей Шалахоўскі.
http://naszaslowa.by/ http://pawet.net/
http://kamunikat.org/ http://tbm-mova.by/
http://nashaslova.mns.by/

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі.*
*Рэдакцыя рукапісы не вяртае.*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.
Выдавец: Установа інфармацыі "Выдавецкі дом ТБМ".
Газета падпісана да друку 89.10.2018 г. у 17.00. Замова № 2715.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы. Наклад 1500 асобнікаў.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 2,03 руб., 3 мес.- 6,09 руб.
*Кошт у розніцу:* па дамоўленасці.